# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland"), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лёгацкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna", Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE" | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 19 (503) — Нядзеля, 8 травеня 1960 — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


## Аб Ленінскім і Хрушчоўскім суіснаваньні

Пры Сталіне, як ведама, Ленін быў ужо паложаны ў гістарычны архіў, а ягоная камуністычная тэорыя была выкарыстоўваная галоўным чынам толькі ў якасьці падмацаваньня й абгрунтаваньня тэорыі Сталіна. Гэтая апошняя была інтэрпрэтаваная як новая фаза ў развіцьці камуністычнай ідэялёгіі, ці, іншымі словамі, нятолькі як прадаўжэньне, але й дапаўненьне ленінскага вучэньня на новым этапе эвалюцыі камуністычнае думкі.

Пасьля сьмерці Сталіна й галоўна пасьля ягонай дэтранізацыі верхаводы Крамля ўжо не маглі базаваць сваей палітыкі на ягоным вучэньні. Таму сваю як нутраную, гэтак і вонкавую палітыку пачалі яны абапіраць на аўтарытэце Леніна й ягоным камуністычным вучэньні. Так паступала спачатку г. зв. калектыўнае кіраўніцтва, гэтак-жа, і то з асаблівай настойлівасьцю, робіць цяпер Хрушчоў.

Для асаблівай апотэозы Леніна дало добрую нагоду 90-годзьдзе з дня ягонага нараджэньня, якое прыпадае на 22 красавіка й было ў цэлым Савецкім Саюзе адсьвяткаванае зь нязвычайным шумам. На ўрачыстым мітынгу на стадыёне імя Леніна ў Маскве з дакладам аб значаньні Леніна й ягонага вучэньня для сучаснага сьветавага разьвіцьця выступіў зь вельмі вымоўным дакладам стары камуністы Куусынен. Каб апраўдаць «ленінскую лінію» сяньняшняй савецкай палітыкі, як у нутраных, гэтак і ў вонкавых дачыненьнях, дакладчык перайшоў усе граніцы хвальсыфікацыі і даў нам дастаткова матарыялу для сьцьверджаньня ўсей залганасьці сяньняшніх камуністычных тэарэтыкаў і палітыкаў.

У цэлым радзе тэарэтычных пытаньняў Хрушчоў, а за ім і савецкія тэарэтыкі папалі ў нявыгаднае палажэньне, бо многія камэнтатары свабоднага сьвету й глыбей думаючыя камуністыя замежных кампартыяў, ды і ў самым Савецкім Саюзе не маглі не заціміць яўных хвальшаваньняў у трактаваньні ленінскіх тэорыяў і не маглі ня прыйсьці да сумлеваў у правільнасьці й шчырасьці генеральнай лініі сяньняшняй савецкай палітыкі. Гэтая праблема камплікуецца для Крамля яшчэ й тым, што пэкінскае камуністычнае кіраўніцтва стаіць цьвёрда на пазыцыях «чыстага ленінізму».

Куусынен у сваім дакладзе паўтарыў усе аснаўныя хвальсыфікацыі ленінскіх установак, з асаблівым націскам падчырківаючы, як гэта робіць і сам Хрушчоў, канцэпцыю мірнага суіснаваньня, як аснову ленінскай тэорыі. Але трэба падчыркнуць, што ані Куусынен у сваім дакладзе, ані Хрушчоў у сваіх нязьлічоных выступленьнях, як і ўсе наагул савецкія тэарэтыкі ня могуць прывесьці ніводнай поўнай цытаты з твораў Леніна, якой можна было-б узапраўды абаснаваць цьверджаньне аб тым, што канцэпцыя мірнага суіснаваньня выводзіцца ад Леніна.

У той самы час у працах Леніна ёсьць дастаткова матарыялу, які дае асновы з поўнай яснасьцяй даказаць адмоўныя дачыненьні Леніна да гэтай канцэпцыі. Гэтак у свой час Ленін пісаў:

**«Нераўнамернасьць эканамічнага й палітычнага разьвіцьця зьяўляецца неадхільным законам капіталізму. Адсюль выцякае, што магчымая перамога сацыялізму спачатку ў нямногіх, або навет у ваднэй, асобна ўзятай, капіталістычнай краіне. Перамогшы пралетарыят гэтай краіны . . . паўстаў-бы супраць астальнога капіталістычнага сьвету, прыцягаючы да сябе прыгнечаныя клясы іншых краінаў, падыймаючы ў іх паўстаньні супраць капіталістых, выступаючы ў выпадку неабходнасьці навет з ваеннай сілай супраць эксплюатататарскіх клясаў і іхных дзяржаваў».**

Такая канцэпцыя Леніна зусім супрацьлежная праклямацыям Хрушчова аб мірным суіснаваньні дзяржаваў камуністычнага й некамуністычнага рэжымаў і «сьвятому» прынцыпу няўмешваньня ў нутраныя справы іншых дзяржаваў.

Грубую хвальсыфікацыю асноўных ленінскіх прынцыпаў, праводжаную Хрушчовам і ягонымі староньнікамі ў ЦК КПСС, у гэтым пытаньні пацьвярджаюць і наступныя ленінскія тэзы:

**«Мы жывем ня толькі ў дзяржаве, але і ў сыстэме дзяржаваў, і суіснаваньне савецкай рэспублікі радам зь імпэрыялістычнымі дзяржавамі на даўжэйшы час немагчымае».**

Яшчэ выразьней гучыць гэты лейтматыў ленінскай тэорыі будучага разьвіцьця камуністычнага руху ў прамове Леніна на мітынгу маскоўскага актыву партыі:

**«Пакуль асталіся капіталізм і сацыялізм, яны мірна жыць ня могуць».**

Усё гэта паказвае на тое, што Ленін быў найзьлейшым праціўнікам высоўванай сяньня Хрушчовам канцэпцыі мірнае каэгзыстэнцыі, а прапаноўваныя ім тактычныя ходы міралюбнай палітыкі былі выкарыстоўваныя толькі для неабходнай перадышкі або накіроўваныя для аслабленьня праціўніка.

Той-жа самы Куусынен чуць не адначасна із сваім дакладам на ленінскіх урачыстасьцях, прысьвечаных абароне канцэпцыі мірнага суіснаваньня, апублікаваў у тэарэтычным журнале сусьветнага камуністычнага руху «Праблемы міру й сацыялізму» дэкляратыўны артыкул, у якім выясьняецца замежным камуністычным партыям, што савецкая палітыка міру зьяўляецца ня чым іншым, як падгатаваўчай стадыяй, або навет, дакладней, арганізацыйнай рэпэтыцыяй да няўхільнай схваткі з вольным сьветам за канчатковую перамогу камунізму.

З прыведзеных вышэй нямногіх прыкладаў, — а іх можна множыць без канца, — выразна бачым, што хрушчоўскае абасноўваньне сваей канцэпцыі мірнага суіснаваньня на вучэньні Леніна зьяўляецца яўным хвальшаваньнем ленінізму, у якім суіснаваньне з капіталістычным сьветам станоўча адкідалася. З гэных-жа прыкладаў ня менш ясна бачым таксама, што навет і сяньняшнія камуністычныя тэарэтыкі часамі адкрыта прызнаюцца, што і цяперашняя хрушчоўская канцэпцыя мірнага суіснаваньня зьяўляецца ня чым іншым, як толькі часовай перадышкай у наступе супраць вольнага сьвету й сяродкам дзеля прытупленьня ўвагі апошняга на камуністычную небясьпеку.

**Л. К.**

## Належна адзначыць Тыдзень Паняволеных Народаў!

Да «Тыдня Паняволеных Народаў», уведзенага ў мінулым годзе ў Задзіночаных Штатах на аснове супольнай Рэзалюцыі амэрыканскага Сэнату й Палаты Рэпрэзэнтантаў і праклямаванага Прэзыдэнтам, засталося ўжо ня так шмат часу. Гэтым Тыднем абвешчаны, як ведама, трэйці тыдзень ліпеня.

Трэба прызнаць, што гэтая важная падзея у мінулым годзе ня была належна выкарыстаная й адзначаная зацікаўленымі коламі ў ЗША і ў першую чаргу палітычнымі эміграцыямі з падкамуністычных краінаў, якіх яна непасрэдна датычыць. Тлумачыцца гэта, хіба, рапто ўным зьяўленьнем гэтых дакумантаў і нястачай часу да падрыхтоўкі адпаведных маніфэстацыяў.

Важнасьці ліпеньскіх актаў амэрыканскага Кангрэсу і Прэзыдэнта мы ня можам і ня маем права недаацэньваць. Яны зьяўляюцца надзвычай важнай вехай на шляху змаганьня паняволеных камунізмам народаў за сваё нацыянальнае вызваленьне, за свабоду, незалежнасьць і дэмакратыю. Яны, прынятыя аднагалосна абедзьвюма палатамі заканадаўчага воргану ЗША, сьветчаць аб тым вялізарным прагрэсе ў грамадзкай думцы Амэрыкі, да якога дайшла гэтая магутная дэмакратыя. Яны зьяўляюцца таксама пацьверджаньнем адкрытай і шчырай антыкаляніяльнай паставы амэрыканскай палітыкі, якая з аднолькавай прынцыповай меркай падыходзіць да ўсіх народаў — вялікіх і малых, аднолькава выступае з падтрымкай і ў вабароне іхных нацыянальных інтарэсаў, выключаючы ўсякую дыскрымінацыю. Гэтыя акты, хай сабе пакуль-што толькі маральнага значэньня, сталіся магутным ударам, перш за ўсё, па імпэрыялістычнай, калянізатарскай і русыфікатарскай бальшавіцкай сыстэме, аб чым вымоўна сьветчыла ведамая рэакцыя на іх камуністычнай прапаганды і асабіста Хрушчова.

Асуджэньне расейска-бальшавіцкага камуністычнага імпэрыялізму і падтрымка правоў паняволеных ім народаў на нацыянальную свабоду й незалежнасьць, выказаныя ў ліпеньскіх пастановах Кангрэсу ЗША, маюць яшчэ й іншае значэньне. Гэта першы прыклад правільнае й справядлівае акцыі **пазытыўнага супрацьдзеяньня** вольнага сьвету хвальшывай бальшавіцкай антыкаляніяльнай прапагандзе, шырока арганізаванай камуністымі ўнутры й вонках савецкага блёку.

Таму, і грамадзка-палітычным амэрыканскім колам, і адпаведным арганізацыям у Амэрыцы з асяродзьдзя палітычнай эміграцыі паняволеных Масквой народаў павінна аднолькава залежыць на тым, каб «Тыдзень Паняволеных Народаў» быў належна адзначаны ў ЗША штогоду, «да таго часу, пакуль для ўсіх паняволеных народаў сьвету ня будзе здабытая свабода й незалежнасьць», — як гэта прапануе мінулагодная Рэзалюцыя амэрыканскага Кангрэсу.

Такім чынам, амэрыканскі народ, у васобе сваіх прадстаўнікоў у Кангрэсе, сказаў сваё слова, стварыўшы гэты важны прэцэдэнс. Думаем, што цяпер далейшая ініцыятыва павінна выходзіць ад непасрэдна й найбольш зацікаўленых у гэтым — ад палітычных эміграцыяў у Амэрыцы. Ім трэба было-б, калі гэта яшчэ ня зроблена, загадзя зьвярнуцца да Прэзыдэнта з прозьбай аб праклямацыі Тыдня і ў гэтым годзе, каб, маючы ўпэўненасьць, у час пачаць падрыхтоўку да ягонага адзначэньня.

Нікога, хіба, ня трэба пераконваць у тым, што з нашага боку было-б неправачальна, калі-б мы не падтрымалі шляхотны, ськіраваны для дабра нашых народаў, пачын амэрыканскага Кангрэсу. Карысьць-жа Амэрыцы і ўсяму вольнаму сьвету ад праводжаньня такіх Тыдняў праўдзіва насьветленая й абгрунтаваная ў самой мінулагоднай Рэзалюцыі Кангрэсу й Праклямацыі Прэзыдэнта.

Трэба прыкласьці ўсе стараньні, каб ня даць падставаў бальшавіцкай прапагандзе гаварыць аб «правале» «Тыдня Паняволеных Народаў», як гэта яна рабіла ў мінулым годзе.

Зразумела, арганізацыя гэтай справы не праходзіла, не праходзіць і ня будзе праходзіць безь перашкодаў. Супраць Рэзалюцыі амэрыканскага Кангрэсу, аб якой тут ідзе мова, узьнялі зацятае змаганьне й супраціў розныя шавіністычныя, заўсёды толькі імпэрыялістычна настаўленыя розныя расейскія арганізацыі й некаторыя іхныя сьляпыя спадарожнікі з асяродзьдзя заходняга грамадзтва. Іхная дзікая манія «жандарма всея Европы . . .» і далей, у дзіўнай ідыліі, гарманізуецца, стымулюецца і ўзаемна дапаўняецца з бальшавіцкім «юбэрмэншам» — «русским человеком» . . . Для іх, як ведама, лепш Расея чырвоная, але вялікая, чымся свабода й незалежнасьць для ўсіх паняволеных народаў. Гэтых людзей, здаецца, ужо нішто да розуму ня верне, такімі яны застануцца ў гісторыі, і на іх ня варта нам зьвяртаць увагі.

Яшчэ, праўда, хоць і рэдка, сустракаюцца дзівакі й сярод Амэрыканцаў, якія нацыянальную структуру Савецкага Саюзу хацелі-б разглядаць абавязкава праз прызму амэрыканскіх штатаў, не заўважаючы паміж гэтымі краінамі істотнай розьніцы. Але гэтыя людзі не пазбаўленыя добрай волі й амэрыканскае тэмпа дапаможа й ім хутка дайсьці да сутнасьці справы. Гэта, аднак, як і шмат іншага, залежыць у вялікай ступені й ад нас, эмігрантаў, новых пасяленцаў. «Тыдзень Паняволеных Народаў» стварае для гэтага першаклясную нагоду.

**(Заканчэньне на 3-яй бач.)**

## Абаронцы «рускага праваслаўя»

13-га красавіка у газэце «Мінская Праўда» былі зьмешчаныя вялікі артыкул і паасобныя зацемкі пад агульным загалоўкам «Гэтага ня могуць даравацъ гісторыя і народ». Назаўтрае — 14-га красавіка — увесь гэты матар'ял быў перадрукаваны і ў камсамольскім воргане — газэце «Чырвоная Зьмена».

Што-ж гэта за «злачынства» выкрыла «Мінская Праўда» — такое злачынства, што матар'ялы аб ім адразу-ж падхапіў рэспубліканскі камсамольскі ворган у БССР?

На гэтае пытаньне адказвае нам вялікі падзагаловак: «У гады Вялікай Айчыннай вайны, калі савецкія людзі, не шкадуючы жыцьця, змагаліся за гонар, свабоду і незалежнасьць сваёй маці-Радзімы, вялікая частка духавенства **беларускай праваслаўнай царквы (**падкр. наша — У. Н.) здрадзіла народу і супрацоўнічала зь нямецка-фашысцкімі захопнікамі».

На першы пагляд можна было-б падумаць: нічога цікавага — чарговы напад на рэлігію, чарговая спроба кампрамітацыі духавентства. Такой тэматыкай апошнім часам перапоўненая ўся савецкая прэса.

Ды так ня ёсьць. Справа, якую ўздымае бальшавіцкая прапаганда пасьля больш як сямнаццаці год маўчаньня — і цяпер стаіць косткай у горле чарговых акупантаў Беларусі. У іншым выпадку не прысьвячалі-б яны ёй раптам стольскі месца ў прэсе . . .

Цяпер глянем, у чым палягае гэтак званая «здрада вялікай часткі духавенства Беларускай Праваслаўнай Царквы». Дамо слова бальшавіком. У вышэй прыгаданым артыкуле чытаем:

«Як вядома, у час Вялікай Айчыннай Вайны **савецкага** народу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, праваслаўная царква разгарнула **патрыятычную дзейнасьць** па збору сродкаў на будаўніцтва танкаў, самалётаў і іншага ўзбраеньня для Савецкае Арміі. Гэтым самым яна ўнесла свой пэўны ўклад у справу разгрому ворага. Разам з тым, мы ня можам забыць і таго, што **рэакцыйныя** прадстаўнікі праваслаўнага духавенства супрацоўнічалі зь гітлераўцамі на часова акупаванай імі савецкай тэрыторыі, заклікаючы веруючых быць пакорнымі рабамі нямецка-фашысцкіх захопнікаў, дзейнічалі ў шкоду нацыянальным інтарэсам савецкага народу.

«Аднэй з такіх праяваў здрадніцкай ролі вялікай групы праваслаўнага духавенства зьяўляецца так званы **сабор па абвешчаньню аўтакефальнай (гэта значыць незалежнай) беларускай праваслаўнай царквы.** Адбываўся ён 30-га жніўня — 2-га верасьня 1942-га году ў Мінску» (падкр. нашыя — У. Н.).

Цяпер мы бачым, у чым справа. Беларуская палітычная эміграцыя добра памятае, як у 1942-м годзе, у часы нямецкай акупацыі, была адноўленая Аўтакефалія Беларускай Праваслаўнай Царквы. Адбылося гэта, як усім ведама, не на жаданьне нямецкіх акупантаў, а пад ціскам усіх пластоў грамадзтва. Дый «Мінская Праўда» адразу здраджвае, што ёй найбольш баліць: у ёй даслоўна гаворыцца, што ўдзельнікі Сабору «галасавалі за разрыў з рускай праваслаўнай царквой» . . .

Як бачым, бальшавікі выступаюць цяпер у ролі абаронцаў «адзіна-недзялімага рускага праваслаўя». Яны раптам дзеляць праваслаўнае духавенства на «патрыётаў» і «рэакцыянэраў», «здраднікаў». І ўсё гэта — ня гледзячы на тое, што яны пасьлядоўна змагаюцца з рэлігіяй, як такой. Ці гэта ня прымушае чалавека з здаровым розумам задумацца?

Ідучы асобным шляхам гістарычнага разьвіцьця, правслаўныя Беларусы заўсёды імкнуліся мець сваю незалежную царкоўную адміністрацыю і гіерархію. Ужо ў 1291-м годзе яны дамагліся ад канстантынопальскага Патрыярха засnаваньня незалежнай Мітраполіі зь сядзібай у Наваградку. Змаганьне за незалежную царкоўную адміністрацыю яшчэ больш узмоцнілася ў наступных стагодзьдзях, калі расейская праваслаўная царква цалкам сталася паслухмянай прыладай палітыкі расейскіх цароў. У 19-м стагодзьдзі аж да гэтага часу — у пэрыяд акупацыі Беларусі белай і чырвонай Расеяй — расейская праваслаўная царква выкарыстоўвалася і выкарыстоўваецца, як адзін з найбольш інтэнсыўных сродкаў русыфікацыі Беларускага народу. Варта адзначыць, што і пасьля «лібэралізацыі» бальшавіцкага курсу ў дачыненьні да рэлігіі справа не зьмянілася. Ня толькі на Беларусі, але і на Ўкраіне ўсе прадметы у духоўных сэмінарыях выкладаюцца выключна па-расейску. Зусім зразумела, што і ў цэрквах пануе расейская мова.

Пасьля здушэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі і акупацыі Беларусі, бальшавікі павялі тут, як і ўсюды, жорсткае змаганьне супраць рэлігіі. Але адначасова яны не пакідалі спробаў апанаваць расейскую праваслаўную царкву і зрабіць яе прыладай свае палітыкі. Неўзабаве яны маглі ўжо пахваліцца немалымі посьпехамі. Бароначы царкву ад гэтай бальшавіцкай акцыі, япіскапы Беларусі 23-га ліпеня 1922-га году на епархіяльным зьезьдзе ў Менску абвесьцілі аб стварэньні самастойнай Беларускай Праваслаўнай Мітраполіі, незалежнай ад расейскай царквы. Такім чынам паўстала Беларуская Аўтакефальная Праваслаўна Царква. Канчальна апрацаваны статут яе быў апублікаваны друкам у Менску ў 1927-м годзе. Гэты статут быў выдадзены пад назовам: «Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква — Статут Саюзу Праваслаўных стара-цар-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## Мэмарыял БАЗА Дзяржаўнаму Сакратару ЗША

У сувязі з набліжэньнем канфэрэнцыі на найвышэйшай узроўні Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня пераслала дзяржаўнаму сакратару ЗША Гэртэру адумысловы мэмарыял. У мэмарыяле выясьняецца запраўдны сэнс савецкай палітыкі мірнага суіснаваньня, накіраванай на аслабленьне абароназдольнасьці вольнага сьвету перад камуністычнай загрозай, а таксама выказваецца просьба, каб падчас канфэрэнцыі ня былі забытыя інтарэсы паняволеных бальшавізмам народаў, у тым ліку й беларускага народу.

# Яшчэ пра «хвальшаваньне гісторыі»

Адным зь яскравых выступаў Масквы супраць нацыянальнай гісторыі, наагул нацыянальнага жыцьця нерасейскіх народаў СССР ці ўсяго так званага сацыялістычнага лягеру можа служыць таксама праведзеная ў мінулым годзе канфэрэнцыя ў Акадэміі грамадзкіх навук пры ЦК КПСС.

Праўда, гэтая канфэрэнцыя, у працы якой, апрача супрацоўнікаў названае кадэміі, прынялі ўдзел таксама супрацоўнікі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук СССР і другіх навуковых установаў Масквы, была прысьвечаная пытаньню «змаганьня з буржуазным хвальшаваньнем гісторыі СССР» наагул, аднак і «буржуазнае хвальшаваньне» гісторыі «сувэрэнных» савецкіх нацыянальных рэспублік і «савецкае нацыянальнае палітыкі» займала тут не апошняе месца. Прыкладам, нейкі Н. Сагіндыкаў «раскрыў выкрыўленьні асноўных заканамернасьцяў культурнай рэвалюцыі ў рэспубліках Сярэдняй Азіі й Казахстану ў кнігах рэакцыйных буржуазных гісторыкаў». Асьпірант акадэміі А. Кооп «затрымаўся на некаторых пытаньнях гісторыі Прыбалтыкі ў насьвятленьні сучаснай буржуазнай гістарыяграфіі», а доктар гістарычных навук Ч. Жылін прысьвяціў свой даклад «буржуазнай тэорыі пра быццам-бы чацьвёрты распадзел Польшчы».

Аднак спачатку мы затрымаемся на «аналізе сучаснай буржуазнай літаратуры ў пытаньнях нацыянальнай палітыкі ў СССР», зробленым на канфэрэнцыі асьпірантам названае акадэміі В. Шлапаком, які на аднэй із канфэрэнцыяў чытачоў часапісу «Вопросы истории» назваў сябе прадстаўніком Беларусі і патрабаваў «удзяліць больш увагі» на бачынах гэтага часапісу «гісторыі беларускага народу» й «пытаньням яе выкрыўленьня». Гэты «аналіз» для чытачоў «Бацькаўшчыны» цікавы тым, што ў ім Р. Шлапак «на прыкладзе Беларусі паказаў, якімі мэтадамі карыстаюцца хвальшыўшчыкі нацыянальнай палітыкі ў СССР».

Кранаючыся працаў чэскага эміграцкага гісторыка Вальтара Коларца «Нацыянальная палітыка Савецкага Саюзу» й «Расея й ейныя азіяцкія народы», Р. Шлапак абураецца супраць асьветчаньняў першага, што дасягнутыя некаторыя матарыяльныя посьпехі народаў СССР не адказваюць іхным нацыянальным жаданьням і што прамысловае разьвіцьцё Беларусі адстае ад такога разьвіцьця куткоў эўрапэйскае савецкае Расеі. На гэта Р. Шлапак змог толькі адказаць зьбітым савецкім аргумантам, што «пра якія другія жаданьні нацыяў можа быць мова, калі ў вабставінах нацыянальнай незалежнасьці й дзяржаўнай самастойнасьці яны дасягнулі эканамічнага й культурнага росквіту», ды пералічыць, што БССР прадукуе цяпер столькі й столькі працэнтаў усесаюзнай прадукцыі трактараў, матацыкляў, станкоў, што БССР вывозіць «сваю прадукцыю ў больш чым 30 краінаў сьвету.

Р. Шлапак ня змог навет уявіць, што «нацыянальная незалежнасьць і дзяржаўная апрычонасьць» пайменна не характарызуюцца колькасьцяй вытворчасьці тае ці іншае прадукцыі, але мэтанакіраванасьцю гэтай вытворчасьці, ейнай нацыянальнай вартасьцяй і здабыткам. Што мае беларускі народ з гэтых «сваіх савецкіх эканамічных дасягненьняў», калі яны, здабытыя ў нявольніцкай працы, безь яго ведама й безь яго згоды, ідуць у вагульны савецкі кацёл ці далей — на падкармленьне «сусьветнага камунізму». А многа вытаргавала БССР з гэтага збыцьця свае прадукцыі на рынках больш 30-ці замежных краінаў? Паспрабаваў-бы падлічыць Р. Шлапак, дык напэўна апынуўся-б у лягеры «буржуазных нацыяналістых».

Абураецца Р. Шлапак і тым, што заходнія гісторыкі ўгледжваюць у савецкай нацыянальнай палітыцы слаба замаскаваную ігру расейшчыны, угледжваюць традыцыйны расейскі каляніялізм. Каб давесьці быццам-бы толькі «спрыяльную» апякунскую ролю «вялікага расейскага народу», ён тут кідаецца падлічыць «культурныя дасягненьні» ў БССР, а гэта значыць, што Беларусь сталася поўнасьцяй пісьменнай, мае свае «нацыянальныя кадры» інтэлігенцыі, сваю «разьвітую нацыянальную» культуру, свае сярэднія й вышэйшыя школы з «роднай мовай» навучаньня, і г. д.

Тут ужо адчуваецца не хвальшаваньне рэчаіснасьці з боку Р. Шлапака, але простае надужываньне, насьмейваньне з нацыянальных пачуцьцяў і нацыянальнага няшчасьця народу. Думаем, што Р. Шлапаку павінны быць ведамы 40-гадовы савецкі перасьлед найменшых праяваў нацыянальнага жыцьця ў БССР, ягоныя ня толькі людзкія, але матарыяльна-культурныя ахвяры. Яму павінна таксама быць ведамае й цяперашняе змаганьне Масквы з гэтымі праявамі так званага буржуазнага нацыяналізму, які заключаецца толькі ў спробах беларускага грамадзтва захавацца ад поўнае дэнацыяналізацыі й русыфікацыі, захаваць, калі ўжо не разьвіць, нацыянальна-культурныя здабыткі свайго народу. Калі Р. Шлапак лічыць інтэлігенцыю «нацыянальнай», што выхоўваецца ў нянавісьці да ўсяго свайго, што памагае акупанту рабаваць і бэсьціць свой народ, дык тым горш для яго.

Гэтым ён раскрывае і сваю цівунскую, прадажніцкую натуру. Аднак як нізка падае Р. Шлапак, намагаючыся выссаць з пальца тое, чаго зусім няма, паймена, што ў БССР ува ўсіх школах праводзіцца навучаньне на роднай мове. Ведама, родная мова вялікі фактар у жыцьці народу, але няўжо нашаму Р. Шлапаку ня ведама, што ўва ўсіх вышэйшых навучальных установах, у тым ліку й у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце, а таксама й у вялікай бальшыні сярэдніх школаў, навучаньне вядзецца толькі на расейскай мове. Дзіву даешся, што Р. Шлапак праходзіць маўчаньнем найважнейшы антынацыянальны цяперашні закон Масквы, што мае на мэце зусім выціснуць родную мову з усіх школаў БССР. «Сам народ выбірае», — пачне апраўдвацца Р. Шлапак, але калі гэты народ здолее наважыцца стаць у вабарону свае роднае мовы, як гэта здарылася ў Азэрбайджане й Латвіі, дык яму адразу наклеяць ярлычок «буржуазных нацыяналістых». А што гэта азначае? — думаем ня трэба паясьняць Р. Шлапаку, які сам змагасцца з гэтым зьявішчам.

У пытаньні польскіх падзеяў 1939 году ці ў пытаньні савецкага змаганьня з «буржуазнай тэорыяй 4-га распадзелу Польшчы» на канфэрэнцыі было засьветчана, што падобнага распадзелу Польшчы зусім ня было і дадзеная тэорыя зьяўляецца «злой клеветой» на Савецкі Саюз. Польскае няшчасьце 1939 году было справай рук Англічанаў, Французаў і Амэрыканцаў. Тое, што мог зрабіць Савецкі Саюз, гэта — супрацьпаставіцца заходнім «імпэрыялістым», заключыўшы ўмову зь Гітлерам, і Нямеччыне, узяўшы пад апеку Заходнюю Беларусь і Украіну, бо Савецкі Саюз «пабачыў, што буржуазны польскі ўрад ня быў здольным стаць у вабарону свайго народу» й тым больш Беларусаў і Украінцаў. Пры гэтым на канфэрэнцыі была кінутая ў бок Захаду падобная рэпліка: «Гарлапанячы пра ўяўны 4-ты распадзел Польшчы, рэакцыйныя гісторыкі й публіцыстыя ў той-жа час абыходзяць маўчаньнем той факт, што ў 1920 годзе Ўкраінцы й Беларусы, якія жылі ў заходніх раёнах, былі сілай адарваныя ад сваей бацькаўшчыны, а самыя гэтыя раёны адарваныя ад Савецкай Расеі».

Вось якая гісторыя 1939 году! Ні слова аб тым, што Польшча была распадзелена на падставе ўмовы зь Гітлерам, таксама ні слова аб тым, што Заходняя Беларусь і Ўкраіна ў 1920 годзе былі перададзеныя Польшчы самымі расейскімі бальшавікамі. На месцы тут напомніць і тую няўвязку савецкай гістарычнай навукі, якая ўсімі сіламі й спосабамі намагаецца ўгаварыць польскі народ, што ягоная дзяржава паўстала ў 1918—1920 гадох «толькі дзякуючы Савецкай Расеі й савецкай нацыянальнай палітыцы». Такім чынам, з аднаго боку расейскія бальшавікі «ўзводзяць і абараняюць» польскае гаспадарства, прызнаючы адначасна ягонае права на заходнія беларускія й украінскія землі, з другога — абвінавачваюць гэтае гаспадарства ў рабунку гэтых земляў — «составное части Советской России» — ды з гэтым «абвінавачваньнем» распачынаюць «праўдзівую» вайну з Польшчай.

Цікава тут параўнаць таксама «насьвятленьне балтыцкага пытаньня» з тым «насьвятленьнем», якое парушалася ў нашым папярэднім артыкуле. Як помнім, у тэй вэрсыі ўзьнікненьне балтыцкіх гаспадарстваў у 1920 годзе мянавалася, як агентура Антанты й прыбалтыцкіх «буржуазных нацыяналістых». Найменна, у вэрсыі Х. Крууса даслоўна было сказана: «Калі-б заходнім імпэрыялістычным сілам разам зь мясцовай буржуазіяй не пашчасьлівілася тады здавіць працоўны народ Прыбалтыкі, балтыцкае пытаньне было-б ужо даўно вырашана ў вадпаведнасьці з жыцьцёвымі інтарэсамі народных масаў. Аднак наступіўшая ў 1918 годзе нямецкая акупацыя, потым антысавецкая інтэрвэнцыя Антанты і, нарэшцэ, **узьнікшыя зь іхнай дапамогай** буржуазныя гаспадарствы Прыбалтыкі нанава адхілілі вырашэньне гэтага пытаньня». Вельмі выразна сказана.

Цяпер-жа на разгляданай канфэрэнцыі было асьветчана адваротнае, а найменна, што Антанта заўсёды была и застаецца ворагам незалежнасьці прыбалтыйскіх народаў і прыбалтыйскія гаспадарствы паўсталі ў 1920 годзе толькі дзякуючы нацыянальнай палітыцы Савецкай Расеі. Прывядзем даслоўныя асьветчаньні А. Коопа на канфэрэнцыі. Адказваючы заходнім гісторыкам, якія сьцьвярджаюць, што прыбалтыйскія гаспадарствы ўзьніклі ў 1920 годзе дзякуючы перамозе Антанты ў Прыбалтыцы, А Кооп заяўляе: «Падобныя цьверджаньні зьяўляюцца самым наглядным выкрыўленьнем гісторыі, бо ведама, што англа-франка-амэрыканскі імпэрыялізм быў і застаецца злым ворагам самастойнасьці й сувэраннасьці прыгнечаных народаў. Антанта ніколі ня была староньнікам прызнаньня самастойнасьці прыбалтыйскіх гаспадарстваў. Яны былі для яе толькі стратэгічным пляцдармам у змаганьні супраць Савецкай Расеі». У выпадку гэтае Савецкае Расеі ён цьвердзіць далей: «пайменна Рэспубліка Саветаў была краінай, якая першай прызнала самастойнасьць прыбалтыйскіх гаспадарстваў». Ня ў прыклад Х. Круусу, А. Кооп гаворыць таксама, што Савецкая Расея й у далейшым «абараняла» нацыянальныя правы прыбалтыйскіх народаў. Ён, у падмацаваньне свае тэзы, падае навет прыклад «міралюбнай» і «неагрэсыўнай» палітыкі Савецкага Саюзу ў вадносінах да Прыбалтыкі, як эканамічную канфэрэнцыю 1921 году ў Рызе, балтыйскую канфэрэнцыю 1922 году ў Маскве, «мірныя» ўмовы зь Летувой і Латвіяй з 1926 і 1927 гадоў.

Як бачым, проста мы трапляем у нейкае зачараванае кола: незалежнасьць прыбалтыйскіх народаў адначасна зьяўляецца й «агентурай» Антанты й прыбалтыйскіх «буржуазных нацыяналістых», і вынікам народалюбства Расеі й савецкай нацыянальнай палітыкі. Разабраўшыся-ж крыху ў гэтай савецкай дыялектыцы, мы проста мусім сьцьвердзіць бязвыхаднасьць савецкага хвальшаваньня гісторыі.

Нанава хвальшуюцца А. Коопам і падзеі ў Прыбалтыцы 1940 году. Ён цьвердзіць, што навязаная прыбалтыйскім гаспадарствам умова гэтага году была скіраваная супраць Нямеччыны, у карысьць Савецкаму Саюзу і для «абароны незалежнасьці прыбалтыйскіх народаў». Савецкі Саюз пайшоў на ўмову зь Гітлерам, каб пазбавіцца небясьпекі агрэсыўнай палітыкі Захаду, што «разам з рэакцыйнымі коламі прыбалтыйскіх гаспадарстваў скалочваў ваенна-палітычны блёк супраць СССР». Гэтая «небясьпека», хоць дасюль Савецкі Саюз і «сьцярог» іхную незалежнасьць, мусіла быццам апраўдаць «падтрыманьне Савецкім Саюзам камуністычных пераўтварэньняў» у Прыбалтыцы.

Такім чынам зьнікла з увагі ўмова Савецкага Саюзу зь Нямеччынай пра распадзел зонаў уплыву ў Польшчы й Прыбалтыцы, зьніклі савецка-прыбалтыйскія ўмовы «пра самапомач і ненападзеньні», а савецкая агрэсыя 1940 году ў Прыбалтыцы сталася «запабегам супраць агрэсыі» апошняе. Нарэшце з усяго гэтага хаосу прыбалтыйскія народы атрымалі цяпер «запраўдную незалежнасьць», скончыўшы назаўсёды з «балтыйскім пытаньнем».

Цяпер і разьбярыся, хто гэта займаецца хвальшаваньнем гісторыі. Напэўна, гэта будуць «буржуазныя нацыяналістыя» й «буржуазны Захад», бо Масква ня «можа» гэтым займацца — ёй хопіць і сілы, каб разьвязаць такія дробныя пытаньні.

**П. Залужны**

# Абаронцы „рускага праваслаўя“

**(Працяг з бач. 1)**

(Працяг з бач. 1)

коўных абшчынаў у сваім агуле складаючых Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву».

Бальшавіцкія акупанты адразу-ж паставіліся варожа да Аўтакефаліі Беларускае Праваслаўнае Царквы. Мітрапаліта Мэльхісэдэка, які ачольваў яе, спачатку трымалі пад хатнім арыштам, а пасьля вывезьлі ў Сібір. Пазьней яго прывезьлі ў Маскву, дзе ён у 1930-м годзе памёр у вельмі загадкавых абставінах...

Гэткі-ж лёс — зьняволеньне і сьмерць — сустрэў пераважную бальшыню герархіі і духавенства Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Яны загінулі за сваю вернасьць Богу — і народу, якому забавязаліся служыць, — адмовіўшыся прадацца бальшавіком.

Як бачым, тое, што адбылося ў Менску ў 1942-м годзе — дарэчы, якраз у той час, калі расейская праваслаўная царква купіла сабе пэўную свабоду за беззасьцярожную вернасьць рэжыму, які ў прынцыпе не зьмяніў свайго стаўленьня да рэлігіі, — было толькі лягічным працягам гісторыі. Пры першай нагодзе, якая нагадарылася, беларускае духавенства і вернікі аднавілі Аўтакефалію свае Царквы, здушаную бальшавікамі. Пэўна-ж, бальшавіком добра ведама, што гіерархія адноўленай БАПЦ, апынуўшыся на эміграцыі, здрадзіла сваіх вернікаў і схавалася пад крыльле Расейскай Зарубежнай Царквы — там, пэўна, ім лепш жывецца... Няма мовы, што бальшавікі наагул маўчалі-б аб усім, каб ня той факт, што, ня гледзячы на гэтую здраду, бальшыня беларускага праваслаўнага духавенства на эміграцыі засталася вернай свайму народу, і Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква была адроджаная. Бальшавіком баліць, што БАПЦ карыстаецца вялікая пашанай грамадзкіх і палітычных колаў, і навет выдатных дзяржаўных дзеячоў вольнага сьвету. Было-б зразумелым, калі-б яны проста лаялі БАПЦ. Але-ж адначасова яны выступаюць як абаронцы «рускай праваслаўнай царквы»... Ці тут патрэбныя якія камэнтары?

**Ул. Неманові́ч**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

**Ул. Глыбінны**

# Да родных берагоў

**(Апавяданьне эмігранта)**

**Працяг з № 18 (502)**

Гісторыя заклікала нас на гэты чын, і хоць ён вымагае безьлічы ахвяраў, аднак ад яго нікуды нам не ўцячы й не схавацца. Ды які сэнс... Жыцьцё праходзіць, не аглянешся, як яно скончыцца. А тады ўжо назад ня вернешся дарабляць недаробленае. Дык рабі, браце, пакуль сіл стае й пакуль табе канчальна не зачынілі рот... На дабро гэта абернецца, калі ні цяпер, дык некалі... Можа нашчадак, аматар прыгожага роднага слова, адзначыць удзячным зрокам праробленую намі працу па захаваньні абраза таго, чым жылі й што думалі простыя людзі нашага часу, а будучыя творцы скарыстаюць з тае палёгкі, да якога дайшло роднае слова ў нашых натугах адшукаць яму свой стыль і твар. — Хацелася-б толькі, каб ласкавы Усявышні даў сілаў ператрываць усе нягоды — дадаў ён, ціха ўздыхнуўшы ды хапаючыся рукою за сэрца. Відаць яно ад узрушаньня пачало зноў рабіць перабоі. Бледныя сьцені ляглі пад вачыма. Сама паўната ягоная цяпер выглядала хваравітаю. Занепакоены, Алесь пачаў прасіць прабачэньня за тое, што змусіў яго, хворага на такую зьмястоўную і даўгую гаворку.

— Нічога, нічога, ня першы раз ужо гэтае сэрца даецца ў знакі мне. Можа зараз увойдзе ў норму. Я вельмі рады быў расказаць чалавеку аб тым, чым жыву й што выношваю ў сваіх марах. Ня часта здараецца такая нагода. Ну, а што-ж самі думаеце рабіць? — нарэшце запытаў ён у Алеся. — Дзе мяркуеце зачапіцца? Зь нечага-ж трэба жыць.

Алесь напачатку думаў, што можа Мікола й ня ведае пра ягонае нядаўнае мінулае, калі гэтак ахвотна й бяз аніякае асьцярогі пусьціўся зь ім у гэтае падарожжа й расказы. Але тут яму сталася ясна, што й пра гэта ягоны субяседнік ведае.

— Дык мне-ж у Менску нельга прапісвацца, забараняецца былым выгнанцам. Я думаю Вы ведаеце пра тое, што са мною было...

— Ведаю, ведаю, не кажыце... Было падобнае... й са мною... Цэлы год у каменным скляпеньні пратрымалі... Усё дапытваліся пра арганізацыю, аб якой я ніколі й ня чуў... Ад бясхлебіцы, начных допытаў, зьдзекаў сьледчых, няпэўнасьці за лёс пасівеў быў без пары. На шкілеце адна толькі скура й трымалася... Хадзіў, як той цень. Каб бачылі мяне тады, не пазналі-б. Праўда, неўдалося прыляпіць ні да якое групы, выпусьцілі... Што прыйшлося пераЖыць за той час, адзін толькі Бог ведае... І ні раскажаш аб гэтым нідзе... Падпіску даў маўчаць... Вам от можа першаму кажу аб гэтым. І хочацца, ой, яшчэ як хочацца падзяліцца зь кім небудзь і гэтымі дазнаньнямі. Так яны й просяцца на пяро, але... прыходзіцца сьцяўшы зубы маўчаць, маўчаць, маўчаць... Можа гэтак і да сьмерці нікому ня выкажаш усяго... От пакута... Ня жыцьцё, а пекла... Але трэба называць раем .. Нічога не парадзіш, калі хочаш жыць і нешта рабіць для любае справы... Рады, што крыху апаражніў сябе ад напругі даўгога маўчаньня ды выліў Вам сёе-тое, што расьпірае нутро і поўніць грудзі нясьцерпным болем. Дзякуй, што слухалі. Зычу ўсяго найлепшага Калі-ж стане цяжка, будзеце мець патрэбу пагаварыць для аблегчаньня душы, заходзьце, калі ласка, будзем рады, я і жонка... Вось мой адрас...

І Мікола Ворны падаў яму накінутыя алоўкам на выдраным з блёк-ноту лістку паперы словы назову вуліцы й нумары дому й кватэры. На разьвітаньне яны горача паціснулі адзін аднаму рукі й падаліся кажны ў свой бок. Алесь яшчэ доўга праводзіў вачыма прыгорбленую без пары, хаця й каржакаватую ды поўную здалёку фігуру гэтак мілага й дарагога яму цяпер Міколы. Сьвет у вачох Алесявых зноў набыў новых хварбаў і зіхацеў усімі адценьнямі летняе красы. Душа ягоная пасьля гэтае гутаркі ачуняла і ўзьнялася на вышыню, зь якое зноў сталі бачнымі прывабы чараў родных берагоў.

«Які залаты чалавек, — думаў ён аб Міколе Ворным. — Гэта-ж ён і ведаў мяне раней ня гэтак блізка, як мой былы сябра Спалахоўскі. Але калі той нахабна ўцёк ад сустрэчы са мною, зьнік з пад самага, можна сказаць, носу, дык гэты ўжо сам пайшоў мне на спатканьне й шчыра прытуліў мяне да свайго хворага сэрца. Ён адчыніў мне свой прыгожы сьвет, падзяліўся сваімі марамі, не схаваў ніводнае думкі, якая прыйшла да яго, калі гэтак сардэчна гутарыў са мною. Багаславі яго Бог і пашлі яму здароўя й трываласьці на тую вялікую працу, да якое ён прызначаны сваім вялікім талентам.»

Сьведамасьць таго, што ёсьць такія людзі, акрыляла Алесявы надзеі і ўздымала заняпалы ўжо настрой. Нібы пачуўшы наплыў новых сілаў, ён шырокаю і ўпэўненаю хадою крочыў менскімі вуліцамі да сябе на Старажоўку.

**VII.**

Калі Алесь ужо быў недалёка ад свае хаты, ягоны зрок запыніў на сябе надта ўжо знаёмы выгляд дзяўчынінае галоўкі. Калі ён параўнаўся зь ёю, ягоным вачам аж ня верылася: перад ім ува ўсёй прыгажосьці расьцьвіўшай кветкі ішла тая, якую ён заўсёды добра памятаў яшчэ з школьных часоў. Гэта была Галя Надзейская, з якою ён некалі канчаў менскую сямігодку. Яшчэ малую, даўно ўжо, ён цягаў часта за касу й злаваў яе сваімі хлапецкімі свавольствамі. Пазьней, ужо ў апошняй клясе сямігодкі яны абодвы даравалі адзін другому гарэзьлівасьць свайго дзяцінства. Нейкая таемная лучнасьць, першыя праявы пачуцьця падлеткавае замілаванасьці выявіліся паміж імі. Яны былі яшчэ за малыя, каб спатыкацца асобна, але адчувалі прыемна, калі бачылі адзін другога. На лекцыях літаратуры яны заўсёды вылучаліся найбольш трапнымі адказамі. Гэта іх яшчэ больш лучыла ў сьведамасьці свае абранасьці. Гады шмат сьцерлі ў памяці аб гэтых днёх. Але, відаць, запраўды памяць сэрца мацнейшая за халодны розум.

---

**Заўвага:** У папярэднім нумары «Б-ны» апошні сказ зьмешчанай там часткі апавяданьня «Ад родных берагоў» трэба чытаць: Але трэба рабіць, ня гледзячы на зьвягу.

# У справе беларусізацыі нашых цэркваў

Узьнятая дыскусія ў «Бацькаўшчыне» на тэму беларусізацыі БАПЦ ёсьць справай вельмі пільнай і важнай, магчыма непрыемнай для кіраўніцтва гэтай царквы ды для нас усіх, аднак спыняць яе было-б роўназначна з выраканьнем нашых нацыянальных імкненьняў. Я хацеў-бы да гэтай дыскусіі дакінуць некалькі сваіх заўвагаў ды расшырыць яе на ўсё нашае рэлігійнае жыцьцё, а ня толькі спыніцца на БАПЦ.

Ідэя царкоўнай і рэлігійнай незалежнасьці вяжацца непадзельна з нацыянальнай незалежнасьцяй кажнага народу, а паняволенага ў васаблівасьці. Змагацца толькі за палітычную й гаспадарчую незалежнасьць свайго народу, а аставацца ў царкоўнай, духовай залежнасьці ад сваіх палітычных і нацыянальных ворагаў — гэта ніякае змаганьне. Нехта трапна сказаў: пры такой «незалежнасьці» хопіць аднаго прыстава з «благачынным» ці паліцыянта з польскім ксяндзом, каб усю воласьць загнаць у чужынецкае стада. Незалежнасьць палітычная й нацыянальная мусіць вырастаць з душы народу, з духовай, псыхічнай, культурнай, моўнай, абрадавай, звычаёвай і г. д. незалежнасьці чалавека, зь ягонага маральнага складу, да якога ворагу дабрацца ня так лёгка. І вось царква, як запраўдная выхавальніца чалавека, мае вытварыць гэткі маральны склад чалавека пры дапамозе сваіх выхаваўчых сяродкаў.

Нехта скажа, што заданьнем Царквы ёсьць збаўленьне душаў людзкіх. На гэта можа сыпянуць славамі ізь сьв. Пісьма ды высказваньнямі царкоўных Айцоў. Я да гэтага дадам: збаўленьне душаў сваіх вернікаў, свайго стада, а гэта значыць сваіх суродзічаў. Ці магчыма аддзяліць у жывым чалавеку душу ад цела, жыцьцё наземнае ад жыцьця вечнага? Ведама, не. Царква, як запраўдная Маці мае клапаціцца таксама і аб жыцьцёвай страве, бо-ж Хрыстос перш карміў галодных, уздараўляў хворых, ускрашаў памершых, а потым вучыў іх аб праўдзе нябеснай.

Такім чынам і выхаваньне духовай незалежнасьці народу належыць да абавязку Царквы-Маці, як праваднічкі яго да хрысьціянскіх ідэялаў.

Якія сяродкі й спосабы служаць для выхаваньня духовай незалежнасьці народу? Назавём некаторыя: а) рэлігійныя сьвятасьці, б) нацыянальная мова, в) нацыянальныя звычаі, абрады, традыцыі, нацыянальны стыль і нацыянальнае царкоўнае мастацтва, г) выхаваўчыя арганізацыі, школьніцтва, прапаганда і г. д.

Разгледзім коратка гэтыя рэлігійныя сяродкі й спосабы выхаваньня. Першай і найбольшай сьвятасьцяй кажнага хрысьціяніна ёсьць крыж — сымбаль мук Хрыста за людзей, знак Ягонай сьмерці й ускрашэньня. Як дакладна выглядаў крыж, на якім быў расьпяты Хрыстос, мы ня ведаем. Традыцыя перадае яго такім, як яго бачым на расьпяцьці — гэта ёсьць крыж чатырохканечны зь ніжняй даўжэйшай канцавінай без скоснай крыжаліны. Над галавой Хрыста была дошчачка з напісам у трох мовах: грэцкай, лацінскай і жыдоўскай — Ісус Назарэнскі Кароль Жыдоўскі.

Першыя хрысьціяне прадстаўлялі крыж або як чатырохканечны зь ніжняй даўжэйшай канцавінай на падабенства рымскага крыжа, або як 6-ці канечны (аснаўны крыж і верхняя дошчачка). Гэтая хворма крыжа перахавалася да сяньня ў выглядзе япіскапскага крыжа, як знаку поўнай сьвятарскай улады.

Зь цягам часу розныя нацыянальныя незалежныя Цэрквы пачалі па свойму прадстаўляць выгляд крыжа. Так за рымскай Царквой утрымаўся чатырохканечны крыж зь ніжняй даўжэйшай канцавінай; грэцкая Царква ўвяла чатырохканечны крыж з роўнымі канцавінамі; эгіпская й каптыйская Царква — ў выглядзе літары Т з паўколам на версе і г. д. Як бачым, кажная самастойная Царква рабіла некаторыя зыначаньні ў крыжы, каб гэтым вызначыць навонкі сваю незалежнасьць, каб вернікі маглі адрозьніць сваю Царкву ад іншай Царквы.

На нашых землях хрысьціянства разьвівалася ізь першахрысьціянскім (япіскапскім) крыжом 6-ці канечным. Перахаваўся ён на старадаўных каменьнях з 12 ст. кн. кн. Рагвалода й Барыса, на шматлікіх цэрквах аж да 19 ст. Наша нацыянальная сьвятая Афрасіня Полацкая ў 12 ст. казала зрабіць такі першахрысьціянскі 6-ці канечны крыж майстру Богушу з золата й серабра й дарагіх каменьняў, уклаўшы ў яго сярэдзіну часткі з Хрыстовага крыжа й сьвятыя мошчы, як нацыянальную сьвятасьць для свайго манастыра ды ўсяго нашага народу. Такая хворма крыжа распаўсюдзілася й на суседніх землях, у Ноўгарадзе, Цьверы, Разані, Суздалі, Маскоўшчыне ў глыб 16 веку, аб чым сьветчаць старыя памяткі. Кіеўская, або «руская» Царква, як сваю нацыянальную асаблівасьць увяла ў ніжняй частцы простую крыжаліну, творачы 8-міканечны крыж, а Масква ў канцы 16 веку, узмацаваўшы сваю дзяржаву, стварыла тэорыю аб так званым трэйцім Рыме. Тады быў пастаўлены Маскоўскі патрыярх, створаныя маскоўскія царкоўныя асаблівасьці ў звычаях і абрадах, а навонкі, як знак незалежнай Маскоўскай царквы быў пастаўлены на месца ранейшага першахрысьціянскала 6-канечнага крыжа (які стаўся нашым нацыянальным крыжам) 6 канечны крыж з укоснай крыжалінай у нізе. Крыж гэты па сяньня ёсьць нацыянальным Маскоўскім крыжам. Маскоўшчына ў сябе паздымала старыя крыжы на пачатку 17 веку, а заняўшы нашыя землі, перш за ўсё правяла ачыстку ўсіх сьвятыняў ад нашых нацыянальных крыжоў, ставячы на іх месца свой крыж з касавіцай, як знак свайго панаваньня. Былі таксама перабудаваныя многія сьвятыні ды пастаўленыя маскоўскія цыбулястыя вежы. Шмат было пабудавана новых сьвятыняў на нашых землях ужо з усімі маскоўскімі ўласьцівасьцямі.

Доўгі пэрыяд расейскай прапаганды, быццам Маскоўская царква ёсьць апорай і маткай праваслаўя, стварыў у некаторых сьвятарох і верніках няпраўдзівае ўяўленьне, нібы маскоўскі крыж ёсьць самы праўдзівы праваслаўны крыж, ня гледзячы на тое, што грэцкае і ўсходняе праваслаўе зусім ня знае й ня ужывае такога крыжа. Гэта нам дабітна паказвае, як маскоўская прапаганда прысланіла праваслаўе сваімі нацыянальнымі атрыбутамі ды затруціла душы нашых вернікаў.

Перахоўваць у нашых сьвятынях гэты маскоўскі крыж, аддаваць яму чэсьць, вешаць яго на грудзёх сьвятароў і вернікаў ды навучаць, што гэта сымбаль праваслаўя — тое самае, што прадаўжаць маскоўскую царкоўную залежнасьць, ашукоўваць сябе й вернікаў. Гэта тычыцца ня толькі нашых праваслаўных аўтакефальных цэркваў, але й усходняга абраду каталіцкай царквы. Нам кажуць, што Украінцы, Карпатарусіны, Малдаўцы трымаюцца гэтага накіненага Расеяй крыжа. Гэта ніякі аргумант. Мы ня гусі, што йдуць за гусаком. Нам няма чаго трымацца маскоўскага крыжа, калі ў нашым народзе трывае свая першахрысьціянская, запраўдна-праваслаўная традыцыя 6-ці канечнага крыжа безь ніякай касавіцы.

Пяройдзем цяпер да іншых нашых нацыянальных сьвятасьцяў. Імі будуць культ іконаў Бажай Мацеры, якія асабліва паважаліся нашым народам, як Жыровіцкай Богамацеры, Менскае, Вастрабрамскае, Дзьвінскае, Заслаўскае, Каложскае, Крупецкае, Баркулабаўскае, Рудзенскае, Смаленскае, Супрасьльскае і г. д. Калі Маці Божая на працягу стагодзьдзяў у так многіх мясцох выслухоўвала просьбы нашага народу ды зьядноўвала шчодрыя ласкі свайго Сына Божага для яго, то і цяпер Яна ня менш ёсьць нашай Успамагальніцай цераз свае цудатворныя іконы.

Апрача цудатворных нашых іконаў Боганмацеры мы маем сваіх нацыянальных сьвятых, як сьв. Кірылу Тураўскага, сьв. Аўрама Смаленскага, сьв Мэркурага Смаленскага, сьв. Афрасіню Полацкую, сьв. Праксэду-Парасну Полацкую і іншых. Сярод іх сьв. Афрасіня прызнана нашым народам за нашую нацыянальную Патронку.

Нашыя сьвятыя — гэта частка нашага народу, гэта непасрэдныя нашыя ўспамагальнікі. Таму іх культ павінен увайсьці ў нашыя цэрквы, а сьв. Афрасіня павінна заняць галоўнае месца ў нашым рэлігійным жыцьці.

Будуем мы свае сьвятыні, не шкадуючы натугаў. Гэта прыгожая справа. Але нашыя сьвятыні, іх выгляд і нутраное абсталяваньне не заўсёды гарманізуюць з нашай нацыянальнай душой: за шмат у іх чужога, за мала свайго, роднага. Апавядалі мне, што ў Новым Ёрку у адной царкве быў зьменены пры затраце немалых выдаткаў іконастас із больш беларускага на маскоўскі выгляд. У Кліўлендзе не пастаўлена цыбулястая вежа на царкве толькі з тэхнічных прычынаў. У Чыкаго «аўтакефалісты» наладзілі сваю царкву на лад маскоўскі, а навет назвалі яе «Георгіеўскай». На ручнікох у цэрквах пераважна красуюцца расейскія ўзоры расьлінныя й «пятушынныя». А кожны думае, што ён творыць «беларускую» незалежнаю царкву.

Закранем пытаньне нацыянальнай мовы. Украінцы трэба прызнаць, здабыліся на нацыянальны поступ. Яны царкоўнаславяншчыну зукраінізавалі, гэта значыць або пераклалі літургічныя тэксты на жывую украінскую мову, або вымаўляюць на свой украінскі лад. У нас надалей пануе чысьцейшая маскоўская славяншчына, гэта значыць зь перадаваньнем усіх маскоўскіх зыначаньняў старой мовы Кірылы й Мятодага. У Чыкаскай царкве ўсходняга абраду хор у некаторых галасох перадае чысьцейшае маскоўскае «ГО». Расеяц уступіўшы ў нашыя цэрквы пачувае сябе, як у сваёй хаце, быццам апынуўся ён у запраўднай расейскай царкве. Я не кажу, што мы зараз-жа павінны перайсьці ў Літургіі на сваю народную мову, на гэта патрэбны час і падрыхтаваўчая праца, але нам неабходна беларушчыць нашыя Божыя Службы. Перш за ўсё вымова царкоўных тэкстаў, хай сабе змаскоўшчаных, павінна быць беларуская гэта значыць зь беларускімі моўнымі асаблівасьцямі. Па другое некаторыя часткі павінны быць па беларуску ўжо цяпер, як Апостал, Евангельле, Войча наш, Верую. Гэтаксама адхіліць трэба дасюлешні звычай адмаўленьня царкоўна-славянскіх малітваў перад ежай, зборкамі, урачыстасьцямі і г. д. а перайсьці на свае, беларускія малітвы, або пераклады на беларускую мову. Духоўнікі нашыя хваляцца тым, што гавораць казаньні па беларуску! Няма чым хваліцца. Калі-б яны й гэтага не рабілі, хто-ж да іх прышоў-бы! Нажаль, многія духоўнікі пратэстанцкія прапаведуюць і да нашых родзічаў не пабеларуску.

З мовай зьвязаная музыка й сьпевы. Ужо ў «Б-не» была закранута справа царкоўнай беларускай музыкі. Я тут найменш маю да гутаркі — гэта справа нашых кампазытараў, якія павінны распаўсюджываць царкоўнае пяяньне ў духу нашым нацыянальным, народным. Я закрану толькі неабходнасьць уводжаньня дадаткова ў Божыя Службы беларускіх рэлігійных песьняў з розных наго-

(Заканчэньне на бач. 4)

# Належна адзначыць Тыдзень Паняволеных Народаў

(Заканчэньне з бач. 1-ай)

Нагода гэтая спрыяльная й важная яшчэ й тым, што Рэзалюцыя Кангрэсу — дзяржаўнага воргану ЗША — упяршыню, як мы ўжо зазначалі, ставіць у вадну роўніцу ўсе паняволеныя камунізмам народы, сьведама абмінаючы падзел паводля тэрыторыяў, блёкаў, расаў ці іншых прызнакаў. Такую пастаноўку справы нам трэба, бязумоўна, толькі вітаць. Лягічным прадаўжэньнем гэтага разумнага пачыну былі-б супольныя маніфэстацыі, ладжаныя на працягу Тыдня супольна й салідарна эміграцыямі розных нацыянальнасьцяў, што жывуць у ЗША.

У мінулым годзе ў гэтым напрамку быў зроблены першы крок, хоць і не бяз пэўных цяжкасьцяў. Гэтую практыку трэба было-б прадоўжыць, разьвіць і адшліфаваць. Замагаючыся за лепшы сьвет, сьвет свабодных, раўнапраўных, незалежных і дэмакратычных народаў, трэба й самое змаганьне арганізаваць на базе тых прынцыпаў, да ажыцьцяўленьня якіх мы імкнемся.

Гэта павінны былі-б усьведамляць эміграцыі ўсіх народаў, кантраляваных расейскім бальшавізмам і камунізмам наагул, незалежна ад краінаў, зь якіх яны выйшлі, і ад сучаснага палітычнага статусу на іхных бацькаўшчынах. Усім нам пагражае тая самая небясьпека. Адным яна пагражае больш беспасярэдня, іншым — менш. Ступень пагрозы не павінна, аднак, быць падставай для сэпаратных выступленьняў супраць супольнага ворага. А што гэты вораг рыхтуе ўсім, навет свабодным цяпер народам аднолькавае ўсебаковае прыгнечаньне, падамо яшчэ адзін із сьвежых доказаў гэтага з галіны бальшавіцкай моўнай палітыкі.

У чацьвертым нумары савецкага часапісу «Политическое самообразование» за гэты год чытаем: «Патрэба ... паразуменьня ў шматнацыянальнай дзяржаве прыводзіць да дабраахвотнага вывучэньня мовы бальшыні насельніцтва ў якасьці сяродку міжнацыянальных зносінаў ... Для часткі малых нацыяў ... расейская мова ўжо цяпер сталася ня толькі сяродкам міжнацыянальнага паразуменьня, але й роднай мовай ... **Для зносінаў свабодных камуністычных нацыяў будзе штораз больш настойлівай** неабходнасьцяй, на нашую думку, вылучэньне зь існуючых моваў аднэй, **якая** магла-б легчы ў васнову будучай адзінай сусьветнай мовы як сяродку паразуменьня для ўсяго людзтва ...»

Яшчэ раз зусім ясна напісана, што зь існуючых моваў выдзяляецца адна — расейская, якая кладзецца ў васнову **«будучай адзінай сусьветнай мовы, як сяродку паразуменьня для ўсяго людзтва»**. Калі сяньня, пад шырмай «дабраахвотнасьці», русыфікуюць Беларусаў, Украінцаў, Армянаў ці Эстонцаў, заўтра прыдзе чарга на Вугорцаў, Чэхаў ды Палякаў, а пасьлязаўтра, магчыма, таксама «дабраахвотна», і на Немцаў, Французаў ды Амэрыканцаў ... Не таму, што Беларусам або Французам не падабаецца іхная родная мова, але таму, што Масква ўжо пастанавіла, якой мовай, мовай якога народу павінны паслугоўвацца й Ангельцы, і Папуасы ...

Перад абліччам гэтай усеагульнай небясьпекі неабходна ўсеагульнае, скаардынаванае супрацьдзеяньне. Гэтая неабходнасьць найбольш пякучая ў шэрагах разнанацыянальнай эміграцыі.

Таму мы дазволім сабе зьвярнуцца тут да эміграцкіх арганізацыяў у Задзіночаных Штатах, у першую чаргу да нашых, беларускіх, з заклікам, каб яны зрабілі ўсё магчымае для супольнага й масавага выступленьня ў падтрымку Дэкляарцыяў амэрыканскага Кангрэсу й арганізавалі гэтыя выступленьні ў духу прыманых рэзалюцыяў. Калі мільёны новых Амэрыканцаў скажуць сваё слова, іхны голас не застанецца незаўважным. Ён зможа таксама зрабіць свой уплыў і на штодзённую палітыку выканаўчых ворганаў Амэрыкі й іншых краінаў вольнага сьвету.

Паўтараем, «Тыдзень Паняволеных Народаў» дае для гэтага шмат часу і магчымасьцяў. Толькі рыхтавацца да яго трэба пачынаць ужо цяпер.

**М. Кручкоўскі**

---

І цяпер, калі яна ўбачыла яго, ейныя вочы міжвольна расчыніліся шырэй і застылі ў прыемным зьдзіўленьні. Выразнаадценяваныя бровы выгнуліся дугою пад шырокім роўным ілбом. Уся ейная маладая стройная постаць аж уздрыганулася ад неспадзяванасьці. Яна запыніла крок і ў нерашучасьці чакала Алесявага слова. А ягоныя вусны ўжо ціха, пяшчотна й ласкава назвалі ейнае імя. — Галя!

І ў гэты момант, здаецца, адбылося тое, што ўжо даўно наканавана лёсам абодвых. Яна адчула ягоную любасьць да яе ўжо ў тым, як ён вымавіў ейнае імя. Уся істота нібыта захвалявалася ад даўно чаканага шчасьця. Яна стрымала ў сабе сваё ўнутранае парываньне й знадворна абыякава, але ў цёплым тоне выказала таксама сваё зьдзіўленьне гэтай стрэчы.

— Алесь, добра памятаю, як мы на гэтай Старажоўцы калісь у чэрвені зубрылі ў апошнія дні перад выпускнымі экзамінамі альгэбру й гэамэтрыю. Ты тады быў яшчэ хлапчанём. А цяпер, бач, якім мужчынам зрабіўся, але пазнаць адразу можна. Даўно ўжо нешта цябе ня відаць было ў горадзе. Дзе выяжджаў? Вучышся дзе ці працуеш? А я вось хімічкай зрабілася, хутка скончу хімічны факультэт нашага ўнівэрсытэту. Ты-ж, пэўна, не паважаеш гэтых дакладных навукаў. Да літаратуры ўсё цягнула некалі. А цяпер што-ж абраў у жыцьці?

— Ой, ня пытай мяне, Галя, пра гэта. Мой выбар не давёў мяне да дабра.

— Што такое, ці ня ў выгнаньні ты быў? Цяпер гэта не навіна, шмат людзей пакутуе. Кажы-ж, ня турбуй мяне няведаньнем! — выдала яна раптоўна сваё хваляваньне.

Не згаварваючыся, нібыта ў падсьведамай змове, яны прайшлі да магілак. Там паміж густа навіслых кустоў язьміну й бружмелю яны доўга мералі сьцежкі і, заглядаючыся адзін другому ў вочы, апавядалі сваё жыцьцё за колькі гадоў. Ён расказаў ёй пра свой благі лёс. Яе найбольш уразіла тое, што яму запынілі пасьлядоўны ход асьветы. Яна запэўнівала яго, што яму канечнае трэба давесьці да канца сваю вышэйшую асьвету. Раіла падацца ў які вялікі горад, калі нельга ў Менску, дык каб быць бліжэй да навуковых асяродкаў. На канцы выказалася гэтак, што ў Алеся ня было ніякага сумлеву, што яна гатовая пайсьці зь ім абы куды, каб падтрымаць яго ў гэтыя цяжкія дні ягонага ледзьве ні зламанага жыцьця.

«Мілая, дарагая Галя, ты й ня ведаеш, якія лекі ты падносіш мне цяпер і якім гаючым бальзамам гучаць твае братэрскія словы. О, дарагая сястрыца, гэта цябе сам Бог і мог паслаць, як ратунак у часы няшчасьця. Ты й не здагадваешся, якія сілы ты ўліваеш ў маю збалелую душу!» — думаў ён, удзячлівы лёсу за тое, што сяньня ён паслаў яму гэткія сустрэчы.

На разьвітаньне яму хацелася моцна расцалаваць яе, але ён стрымаўся, каб ня зьнізуць таго высокага ўзьлётнага значаньня іхняе сустрэчы, якi яна мела для яго асабліва.

— Ды глядзі-ж, пішы, не забывайся Алесь, а я буду часта наведваць тваіх бацькоў. Праз іх буду ведаць пра ўсе твае ўдачы й няўдачы. Ты-ж, пэўна, ім будзеш часьцей пісаць. Ды ня згубі паперку з маім драсам, — прагаварыла яна ўсьлед адыходзячаму Алесю.

— Не, не, будзь пэўна! Я адразу ў хаце перапішу ў свой блёк-нот. Там ён і захаваецца. Але я яшчэ мацней замацую яго ў сваёй памяці, адтуль яго ўжо ніякімі сіламі ня вытрэшыш. Бывай, Галя, да спатканьня! — гукнуў ён усьлед і яшчэ раз замахаў рукою.

### VIII.

Бадзёры і абнадзеяны ён увайшоў пад нізкія столі драўлянага дамка, кватэру сваіх бацькоў. І тут яго чакала новая неспадзяванка. Насустрач яму ўстаў з крэсла высокі поўнатвары малады чалавек у сінім гарнітуры.

— Дык вось ён той, якога гадзінамі чакаюць і ніяк не дачакаюцца. А ён сабе на спатканьнях з маладымі прыгажуньнямі і яму нічагусенькі!

Алесь адразу пазнаў сябру свайго літаратурнага юнацтва, паэту Мацея Грушынскага. Той не чакаючы тлумачэньня схапіў Алеся ў абдымкі й пацалаваў яго ў голаў.

— Вельмі рады бачыць цябе жывым і здаровым. Ты вярнуўся. Гэта гучыць для мяне музыкай. Я сяньня выпадкам у горадзе сустрэў Базыля Спалахоўскага. Ён адразу мяне аглушыў навіною. Кажа, толькі-што бачыў цябе.

— Дзе, калі, чаму не затрымаў, каб пагаварыць. Якжа цяпер дазнацца, дзе яго можна спаткаць? Ай-яй-яй, выпусьціў за-пад увагі такога чалавека! — пачаў быў дапікаць я Базыля.

— Ты-ж ведаеш, калісьці мы ня былі гэтак блізкімі, каб хадзіць адзін да другога да хаты. Я й ня ведаў твайго адрасу. Але нашы выпадковыя размовы запалі мне ў сэрцы. Я ўвесь час шкадаваў, што цябе не абыйшла наша агульная бяда. А цяпер бачу, такая нагода пагаварыць з чалавекам, а гэты палахлівец нават не падыйшоў да цябе, от немарач!

— Калі ты ўжо гэтак хочаш пабачыцца зь ім, я магу расказаць табе дзе жывуць ягоныя бацькі. Пэўна-ж, ён там і запыніўся, — сказаў быў Базыль тады мне.

— Давай, кажы, ліха тваёй галаве, — кажу я. А сам ад узрушаньня ледзь даваў увагі ягоным апісаньням дарогі, якімі вуліцамі ісьці ды паводля якіх адзнакаў шукаць таго дому. Але нічога, знайшоў, запраўды, язык да Кіява давядзе. Сёетое распытаў у людзей, а як натрапіў на хату на горцы, што на рагу дык адразу пазнаў і рашыў, што гэта тут. А твая маці якраз на двары й натрапілася. Павяла ў хату. Яна сама цябе нядаўна бачыла здалеку, як ты з дзяўчынай ішоў. Рашылі, што хутка будзеш у хаце. А як пачаў чакаць, дык і канца чаканьня ня відно было. Твае тата і маці сяк-так разважылі маю нецерпялівасьць, займалі расказамі пра тваё і сваё жыцьцё-быцьцё. Углядаўся ў твае фатаздымкі. Ну вось хлапчуковыя вочы якраз навылет цяперашнія. А ты выглядаеш малайцом. Толькі вось валасы ўжо без пары пачалі крыху шарэць, сівізна дзе-нядзе на вісках прабіваецца. Але відаць посьпех у дзяўчатаў маеш, толькі прыехаў, а ўжо з маладзіцай, нябось, гадзінамі спацыруеш, сяброў чаканьнем марнуеш. Але добра, добра, не дакараю, так і трэба. Жыцьцё праходзіць, не аглянешся, як яно прамільгне.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## Сьвяткаваньне 25-га сакавіка ў Нью Брансьвіку

Дня 3-га красавіка Саўт-Рывэр — Нью Брансьвіцкі Аддзел Беларуска-Амэрыканськага Задзіночаньня адзначыў 42-ую гадавіну абвешчаньня Незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі.

Раніцай у Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Нью Брансьвіку мітрафорны пратаярэй а. Сьцяпан Войтэнка адслужыў урачыстую літургію й малебен. Прыгожа пяяў хор мясцовае царквы пад кіраўніцтвам сп. Ф. Родзькі. Апрача парахвіянаў, прысутнічала шмат гасьцей, сярод якіх быў і дастойны госьць Прэзыдэнт Рады БНР інж. Мікола Абрамчык.

Папаўдні вялікая прыгожая заля ў памешканьні Прэзьбітарыянскай царквы была запоўненая людзьмі. Сп. Юрка Станкевіч адыграў на піяніне амэрыканскі гімн, пасьля чаго акадэмію адкрыў прывітальнаю прамоваю старшыня аддзелу БАЗА сп. С. Гутырчык, перадаючы слова высокапаважанаму госьцю сп. прэзыдэнту М. Абрамчыку. Сп. прэзыдэнт вельмі зьмястоўна паінфармаваў аб дасягненьнях беларускага вызвольнага руху ад 1918 году да сучаснага мамэнту. Гаворачы аб сучаснай палітычнай сытуацыі, ён сьцьвердзіў, што бальшавіцкая дыктатура, дарма што яшчэ сяньня выкарыстоўвае палітычную нясьведамасьць шматлікіх народаў і нерашучасьць заходніх урадаў, сама ў сваім асяродзьдзі зьяўляецца нявылячальна хворай і што час вызваленьня паняволеных народаў, у тым ліку й беларускага народу, недалёкі. Рэфэрат прысьвечаны 42-ой гадавіне абвешчаньня незалежнасьці Беларусі прачытаў сп. П. Маньkоўскі.

Пасьля прывітаньняў рэпрэзэнтантаў дзяржаўных установаў Амэрыкі й нашых арганізацыяў пачалася канцэртная частка, якая складалася з дэклямацыяў патрыятычных вершаў, сцэнічнага мантажа, салёвых выступленьняў і народных танцаў. З дэклямацыямі выступалі наступныя вучні мясцовай беларускай школы: Тамара й Алесь Стагановічы, Галя Пажура, Мікола Швэд, Іра Азарка, Аля Лосік, Леля Гутырчык, Ганя Маньkоўская, Іра Войтэнка й трохгадовая Люда.

Сцэнічны мантаж «Беларусь», напісаны сп. Васілём Стомам, быў выкананы на сцэне вучнямі беларускай школы й сябрамі ЗБМ пад кіраўніцтвам самога аўтара. Салёвыя выступленьні былі выкананыя Гердай Кабушкай на акардыёне й Юркам Станкевічам на піяніне. Танцы «Лявоніха» й «Крыжачок», зарганізаваныя сп. Нінай Кулеш, вельмі прыгожа былі выкананыя дзяўчатамі з ЗБМ і школы. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

Пасля акадэміі, БАЗА й Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне зарганізавалі ўрачыстае прыняцьце ў чэсьць сп. прэзыдэнта БНР. Пасьля прамоваў прысутных прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў і прыватных асобаў сп. прэзыдэнт дзякаваў за працу, уложаную мясцовымі арганізацыямі й школаю для так урачыстага сьвяткаваньня.

**М. Р.**

## У справе беларусізацыі нашых цэркваў

**(Заканчэньне з 3-яй бачыны)**

даў, як калядак (на Коляды), вялікодніх, сёмушніх і г. д., а таксама на розныя іншыя царкоўныя ўрачыстасьці ў чэсьць Маці Божай ці сьвятых. Нашыя Кампазытары й паэты павінны стварыць такія рэлігійныя песьні. Ня можа быць забыты таксама й наш рэлігійны гымн «Магутны Божа».

Што да нашых нацыянальных звычаяў у рэлігійным жыцьці павінны пры царкве ладзіцца сьвяточныя ўрачыстасьці з нагоды вялікіх сьвятаў, як Куцьця, Разгаўленьне, Сёмуха,Спаса й інш. паводля чыста народных звычаяў безь ніякіх чужацкіх уставак, на якіх павінна гучэць наша песьня і дух народу. Ня буду тут гутарыць пра захоўваньне беларускіх нацыянальных асаблівасьцяў пры выконваньні Літургіі, на гэта патрэбны адумысны артыкул, але самыя духоўнікі павінны пачаць вывучаць беларускую царкоўную гісторыю, беларускую абрадавасьць, беларускае жыцьцё. Дасюль усюды адчуваецца панаваньне расейскага духу, расейскіх манераў, а калі зьвернеш увагу навет высокапастаўленым нашым духоўнікам, то яны захоўваюцца як абаронцы маскоўскага рэжыму ды ня рупяцца вывучыць сваё нацыянальнае багацьце.

Да звычаяў належыць справа каляндара. Вялікая разьбежнасьць старога стылю з новым ды з жыцьцём, якое ідзе па новаму, стварае вялікія тормазы ў разьвіцьці нашага царкоўнага й нацыянальнага жыцьця. Усе культурныя народы даўно ўжо перайшлі на новы каляндар. Адно расейскае Зарубежжа й Украінская Царква трымаюцца гэтай старой традыцыі. Што яна нам дае, якія карысьці мы маем ці можам спадзевацца?

Некаторыя кажуць: справа каляндара разглядалася расейскай і ўкраінскай цэрквамі ды не атрымала разьвязкі. Многія былі за ўтрыманьнем старога стылю, бо ён спрычыняецца да аслабленьня асыміляцыйнага працэсу эміграцыі. З гэтых меркаваньняў кіраўніцтва БАПЦ гатова трымацца старога каляндара.

На наш погляд стары каляндар не прадстаўляе ніякай вартасьці ў працэсе дэнацыяналізацыі эміграцыі. Прыкладам можа служыць старая нашая эміграцыя, якая па сяньня трымаецца старога каляндара, аднак дзеці й унукі старых эмігрантаў амаль поўнасьцю затрацілі бацькаўскае этнічнае аблічча. Паўстрымаць працэс вынарадаўленьня зможа не каляндар, але выхаваньне нацыянальнай сьвядамасьці маладога пакаленьня, любові да народу бацькоў, яго вывучэньне. І наша апошняя эміграцыя, захоўваючы стары каляндар, ня можа гэтым паўстрымаць асыміляцыйнага працэсу. Многія ўжо маладыя ня ўмеюць гаварыць, або чытаць і пісаць па-беларуску, а навет тыя, якія вучыліся ў табарах у беларускіх школах, сёньня ўжо пішуцца, прытым у беларускай прэсе як Джо, Боб, Нэль, Джан, Вольтэр і г. д. Інакш кажучы, каляндар сам па сабе не адыгрывае спадзяванай некаторымі ролі зьберагальніка бацькаўскай спадчыны. Наадварот, ён зьнеахочвае маладое пакаленьне да сваёй царквы й сваёй нацыі, бо ў ім бачыць нясугучнасьць з навакольным жыцьцём, нічым не абаснаваную адсталасьць, перашкоды ў працы й адпачынку.

Ставіць за прыклад Жыдоў, якія карыстаюцца ў рэлігійным жыцьці сваім каляндаром, дзякуючы нібы якому яны зьберагլі сваю апрычонасьць — ніяк не прыходзіцца. Жыды творань асобную групу, розную ад хрысьціянаў, непараўнальную да іх. Трымае іх расавая супольнасьць, рэлігійная замкнёнасьць, гаспадарчая салідарнасьць.

Супольны каляндар пратэстантаў, каталікоў і тым праваслаўных, што перайшлі на новы стыль (Грэкі, Сэрбы, Баўгары) зусім не прысьпяшае асыміляцыйнага працэсу, ды ня служыць прычынай да адыходу ад веры бацькоў. Утрымоўвае стары каляндар толькі стары чад, страх перад адыходам ад старых навыкаў.

Ізноў трымацца ў хвасьце за расейскай і ўкраінскай эміграцыяй нам ніяк ня можна. З усяго ясна, што нам трэба перайсьці на новы каляндар, і гэта будзе вялікі пачатак для ўсяго нашага народу. І гэтым мы парвем адну зь вяровак, што вяжа нас з Масквой.

У канцы некалькі слоў аб нашай царкоўнай прэсе, і царкоўных арганізацыях.

За выключэньнем каталіцкай прэсы, якая мае прызнакі большага жыцьця, рэлігійная прэса так праваслаўная, як і пратэстанцкая не зусім адказвае вымогам нацынальна-рэлігійнага выхаваньня. БАПЦ выдае 2-3 нумары «Голасу Царквы», у якіх найбольш месца займае маралізатарскі матарыял. Вельмі мала матарыялу, які тварыў-бы ў чытачу духовую незалежнасьць, мацаваў-бы яго рэлігійнае й маральнае самапачуцьцё, замацоўваў-бы нашыя традыцыі, разьвязваў-бы розныя праблемы ды дапамагаў у рэлігійных беларускіх патрэбах. Выдаваць часапіс толькі дзеля «пасланьняў» і агульнахрысьціянскіх пропаведзяў — мы за бедныя. Аб беларускай пратэстанцкай прэсе не прыходзіцца паважна гутарыць, бо такой няма. Лісткі, якія выдае сп. Рыжы-Рыскі, міма шумных тытулаў, астаюцца лісткамі бяз большай увагі з боку чытачоў, бо ў гэтых лісткох нічога няма, што-б зацікавіла іх. Беларускія пратэстанцкія духоўнікі дасюль не стварылі мацнейшага беларускага рэлігійнага асяродка, хоць беларускіх сэктантаў налічваюцца тысячы ў адной толькі Амэрыцы.

Ёсьць пры нашых цэрквах царкоўныя арганізацыі, так зв. Брацтвы й Сястрыцтвы. Нажаль іх дзейнасьць зводзіцца да наладжваньня царкоўных прыняцьцяў. Мы ведаем зь гісторыі. што царкоўныя Брацтвы доўгі час былі галоўнай апорай праваслаўнай веры. Сяньня Брацтвы й Сястрыцтвы пры духоўніках, якія ня маюць дастатковай нацыянальнай выробленасьці, могуць адыграць вялікую ролю ў нацыянальна-рэлігійным выхаваньні ўсяе парахвіі. Перш за ўсё ўладжаньне й абсталяваньне царквы ў беларускім стылі — справа іх. Далей чытаньне лекцыяў, ладжаньне ўрачыстасьцяў, угодкаў, акадэміяў, мольбаў у чэсьць нацыянальных сьвятых і г. д. Мясцовы сьвятар напэўна не адмовіцца выканаць зь ім зьвязаныя абавязкі. Трэба толькі, каб у Брацтвы й Сястрыцтвы заахвочваць ня толькі маласьведамых, але перш за ўсё самых актыўных, нацыянальна выробленых, моладзь і г. д. Навет так зв. «зрусыфікаваныя» сьвятары пры стойкіх царкоўных арганізацыях ня будуць перашкодай, як гэта маем сяганьня. Вось-жа адным з галоўных заданьняў нашых царкоўнікоў і ёсьць наладжаньне нацыянальнамоцных царкоўных арганізацыяў.

**А. Бутрымовіч**

З радыёвай хвалі Гішпанскага Нацыянальнага Радыя

## *З нагоды 500-ай праграмы нашых радыяперадачаў*

Гішпанія ёсьць аднэй зь вельмі нешматлікіх краінаў сьвету, што ня ўтрымліваюць дыпляматычных дачыненьняў ані з Савецкім Саюзам, ані зь ніякімі іншымі камуністычнымі рэжымамі, якія былі накінутыя сілай многім народам. Дваццаць чатыры гады таму Гішпанія бязмала не апынулася ў камуністычнай пропасьці, і толькі патрыятычны зрыў народу ўратаваў яе ад гэтага. А цана гэтага зрыву была непамерна балючая: цана крывавай хатняй вайны, мільёнаў ахвяраў, агульнага зьнішчэньня.

Маючы за сабою такое дасьветчаньне, Гішпанцы лягчэй, чымся хто іншы, змаглі зразумець запраўдную сытуацыю краінаў паняволеных зьверскім маскоўсвім бальшавізмам. Нічога таму дзіўнага, што хутка па вайне паўсталі ў Мадрыдзе пры Гішпанскім Нацыянальным Радыі сэкцыі ў чужых, усходня- і сярэдняэўрапейскіх мовах, прызначаныя для змаганьня з камунізмам. Напачатку было іх ня шмат, але з часам паўставалі штораз новыя. З адкрыцьцём у канцы 1958 году нашай беларускай і альбанскай сэкцыяў Гішпанскае Нацыянальнае Радыё практычна абняло ўвесь эўрапэйскі прастор маскоўска-бальшавіцкай імпэрыі.

Праўда, у іншых краінах таксама існуюць перадачы ў шматлікіх мовах, аднак характар іхні ёсьць зусім іншы, бо зацікаўленыя ўрады накідаюць ім сваю палітычную лінію. У Мадрыдзе-ж цешацца яны шырокай свабодай, з тым толькі, што ўсе ёсьць зьведзеныя да аднаго супольнага антымарксістаўскага й антысавецкага назоўніка. Абгаварваньне канкрэтных нацыянальных пытаньняў належыць выключна да рэдактароў гэтых перадачаў. Незалежнасьць у рамках супольнага антыкамуністычнага становішча — гэта галоўная рыса перадачаў Гішпанскага Нацыянальнага Радыя, якая вырозьнівае іх карысна ад іншых заходніх перадачаў у чужых мовах.

Адносіны камуністых да гэтых перадачаў былі й засталіся па сяньняшні дзень вельмі-ж сваясаблівыя. Спачатку стараліся яны прамаўчаць іхнае існаваньне. Калі-ж аднак аказалася, што гэтыя перадачы даходзяць да слухачоў, што прамоўчваньне да нічога не вядзе, — кінуліся ў атаку. Камуністычная прэса асьмешвае дзейнасьць палітычных эмігрантаў, цьвердзячы, што ня мае яна ніякага ні значаньня, ні эфэкту. Людзей, што вядуць радыёвую працу, абліваюць памыямі, прадстаўляючы іх, як чорных рэакцыянераў, зраднікаў сваіх бацькаўшчынаў, платных агентаў капіталістычнага імпэрыялізму.

Нашыя перадачы ёсьць сыстэматычна заглушваныя. Найбольш глушацца перадачы ў мовах тых народаў, што беспасярэдна ўваходзяць у склад Савецкага Саюзу, пры чым наймацней чамусьці заглушваюцца нашыя беларускія радыяперадачы.

Як ведама, глушэньне каштуе вялікія грошы. Столькі-ж каштуе ўтрымоўваньне шматлікага пэрсаналу, які гэтыя перадачы слухае, рэгіструе на йстужцы ці стэнаграфуе для патрэбаў савецкай палітычнай паліцыі. Сачэньне за эміграцыйнымі асяродзьдзямі, якія вядуць радыёвую працу — гэта дадатковае абцяжаньне. Усё разам прадстаўляе мільённыя сумы.

Вось-жа калі-б узапраўды ўся гэтая дзейнасьць ня мела ніякага значаньня, калі-б узапраўды заслугоўвала толькі на пагардлівае пацісканьне плячыма і на некалькі абразаў ці зьнявагаў, дык нашто-ж выкідаць столькі грошай. Нашто ўвесь гэты апарат падслухоўваньня, нашто гэтае заглушваньне? Калі, як цьвердзіць бальшавіцкая прапаганда, эмігранты заўсёды й стала хлусяць, дык нашто-ж іх заглушваць? Наадварот, больш мэтазгодным было-б аблегчыць слуханьне гэтых перадачаў, каб народ сам мог пераканацца, як хлусьлівай ёсьць дзейнасьць палітычных эмігрантаў.

Дык вось ужо гэты голы факт, што Масква абвесьціла зацятую вайну радыяперадачам палітычных эмігрантаў, выразна сьветчыць, што гэтым перадачам прыдае вялікую вагу й што іх баіцца. Інакш кажучы, ня чуецца так моцнай і пэўнай сябе, як гэта запэўнівае на кажным кроку.

Нашыя беларускія радыяперадачы служаць справе паняволенага беларускага народу. Яны абвяшчаюць і падтрымліваюць надзею ў надыход Дня Справядлівасьці й Свабоды для ўсіх паняволеных народаў, дня, у якім наш беларускі народ на собскай зямлі сам выбяра сабе такую форму ўлады, якая яму будзе найбольш адказваць, якая будзе ў згодзе зь ягонымі нацыянальнымі традыцыямі. Нянавісьцяй і зьнявагай адказваюць панявольнікі нашай бацькаўшчыны й іхныя падхалімы нашую працу. Але гэта нас не палохае. Наадварот, замацоўвае ў упэўненасьці, што праўда ёсьць з намі. Бо зьнявагі, кіданыя ворагам нашай бацькаўшчыны, прадстаўляюць сабою якраз найвялікшую для нас пахвалу і даюць нам вялікае задаваленьне.

І гэтак перадаючы сяньня нашую пяцьсотую праграму, мы запэўніваем, што зь яшчэ большым энтузіязмам і верай будзем прадаўжаць нашыя вольныя беларускія радыяперадачы.







## Фонд набыцьця помніка

Дэнвэр, Калярадо: «Даведаўшыся аб сьмерці нашага супольнага настаўніка сп. А. Орсы й адначасна аб Вашай ініцыятыве ў справе зборкі грошай на помнік на ягоную магілу, я ў залучэньні перасылаю Вам чэк на скромную суму, якую прашу залічыць на куплю помніка».

Лювэн, Бэльгія: «Будзьце ласкавы, прыміце і мой скромны ўклад на помнік майго калішняга дырэктара сьв. пам. Др. А. Орсы».

Гэтак, часам усяго толькі даведаўшыся, бо навет не атрымаўшы ліста ад камітэту ў гэтай справе (шмат чыіх адрасоў камітэт ня меў, каб зьвярнуцца асабіста), былыя вучні сьв. пам. Д-ра А. Орсы перасылаюць свае ахвяры ў Фонд Набыцьця Помніка.

Паступаюць ахвяры з далёкае Аўстраліі, бо там ёсьць ягоныя вучні.

Шчыра дзякуючы ўсім ахвярадаўцам за складзеныя ахвяры, ніжэй зьмяшчаем лісту № 7 ахвярадаўцаў.

Ліста № 7

(Ахвяры ад былых вучняў і сяброў памёрлага).

1. Міхась Лазоўскі (ЗША) — 5 дал., Уладзімір Бакуновіч (Бэльгія) — 2 дал., 3. П. Трысмакоў (Аўстралія) — 2 дал. 20 ц., 4. Сям'я Родзькаў-Русакоў (ЗША) — 15 дал., 5. З. і В. Кіпель (ЗША) — 10 дал., 6. Аляксандар Міцкевіч (ЗША) — 5 дал. Усяго разам па лісьце № 7 — 39 дал. 20 ц.

Папярэдня паступіла 760 дал. 39 ц.
Усяго разам . . . 799 дал. 59 ц.

Таму, што ў большасьці беларускіх асяродкаў, дзе пражываюць былыя вучні сьв. пам. Д-ра А. Орсы збор ужо праведзены, ён незадоўга будзе закончаны.

Камітэт просіць тых калегаў, якія яшчэ ня склалі сваіх ахвяраваньняў, зрабіць гэта.

Няхай гэта будзе дружны салют памяці беларускага грамадзка-культурнага дзеяча і настаўніка ад ягоных вучняў і тых, што яго разумелі і цанілі.

Чэкі і паштовыя пераказы просім перасылаць на адрас:

Michael Ragula, 385 Alabama Ave.,
Brooklyn 7, N. Y., U. S. A.

Камітэт Набыцьця Помніка
на магілу сьв. пам. Д-ра
А. Орсы ў Нью Йонрку
М. Рагуля, скарбнік

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**


## НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**